**Увага! Самы позні тэрмін здачы рэкламнай аб'явы ў чарговы нумар — аўторак да 15 гадзін штотыднёва**



# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

*№ 32 (61). Слонім. 6 — 12 жніўня 1998 г.* *Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік* *Кошт свабодны*

**ШЛЯХ ДА БОГА**

## "ВОЗЛЮБИ БЛИЖНЕГО ТВОЕГО, КАК САМОГО СЕБЯ"





**У нядзелю, 2 жніўня, адбылося воднае хрышчэнне 11 слонімскіх вернікаў царквы хрысціян евангельскай веры "Благадаць".**

Гэтым самым яны далі абяцанне служыць Богу чыстым сумленнем. Абрад хрышчэння бярэ свой пачатак з першахрысціянскіх часоў, калі сам сын Божы Ісус Хрыстос прымаў Хрышчэнне ў рацэ Іардан ад Іаана Хрысціцеля.

Сёлета вернікі царквы "Благадаць" прымалі хрышчэнне на рацэ Шчара. Падчас гэтага святога рытуалу гучалі песні і малітвы. У гэты дзень вернікі з вялікай радасцю сустрэлі сваё свята, якому не перашкодзіў і нечаканы дождж.

У народзе іх называюць баптыстамі. Яшчэ некалькі гадоў таму, гэта слова выклікала ў людзей самыя розныя пачуцці, як вынік шматгадовай камуністычнай прапаганды.

**(Працяг матэрыяла на 4 стр.)**

**НАВІНЫ**

### З узнагародай!

**Ганаровай граматай абласнога выканаўчага камітэта ўзнагароджаны:**

**Аўдзейчык** Валянцін Фабіянавіч – загадчык фінансавага аддзела Слонімскага райвыканкама.

**Галожына** Ніна Сяргееўна – загадчыца аддзела арганізацыйна-кадравай работы Слонімскага райвыканкама.

### Все на битву

**«С понедельника вся страна будет работать в особом режиме», — заявил президент Беларуси А.Лукашенко на Республиканском селекторном совещании по проблемам уборки урожая, которое состоялось 31 июля.**

Открывая его, А.Лукашенко заявил, что основой белорусского государства и его независимости были и останутся хлеб и село. Президент сообщил, что уже давал себе слово не вмешиваться таким образом в ход сельскохозяйственных работ, но нынешняя ситуация «крайне настораживает». «Положение крайне серьезное, которое вынуждает меня объявить, что с понедельника страна переходит в режим особого функционирования», — заявил глава государства. Это, по его словам, значит, *«что все живое, все, что движется или способно двигаться, должно быть направлено на уборку урожая, на нормальное функционирование народного хозяйства».*

Особое внимание руководителей всех уровней А.Лукашенко обратил на недопустимость сложившейся ситуации с задолженностью по заработной плате работникам сельского хозяйства. Он сообщил, что с понедельника во все области Беларуси будут направлены представители президента, которые станут ежедневно докладывать главе государства о ситуации на местах. «Все должно быть брошено на эту битву... Все пытаются придавить Беларусь, а чтобы выстоять, надо иметь хлеб», — заявил президент.

**БелаПАН**

### Ноччу трэба спаць

**Добра вядомы бар "Аазіс" цяпер будзе працаваць толькі да 2 гадзін ночы, а не кругласутачна, як раней**

Такое рашэнне прыняў на апошнім пасяджэнні гарвыканкам.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## ПРЫСЯГА



**У нядзелю, 2 жніўня, ва ўсіх вайсковых гарнізонах і часцях беларускай арміі прайшлі ўрачыстыя цырымоніі прывядзення да прысягі маладога папаўнення Узброеных сіл. У гэты дзень прысягу на вернасць Радзіме прынялі каля 12 тысяч ваеннаслужачых, прызваных на тэрміновую вайсковую службу сёлета.**

**(Працяг на 3 стр.)**

**НАВІНЫ**

### Все растем

**За прошедшие две недели (20 июля - 2 августа) курс доллара США по отношению к белорусскому рублю заметно повысился на всех сегментах валютного рынка.**

Лидером роста стала котировка доллара к безналичному белорусскому рублю на внебиржевом рынке – 7,1 % (с 69.000 – 71.000 до 74.000 – 76.000 рублей). На 6,3 % (с 59.000 – 60.500 до 63.000 – 64.000 рублей) подорожал доллар на «черном» рынке наличной валюты. В то же время, в обменных пунктах коммерческих банков курс доллара увеличился на 2,3 % (с 55.000/57.000 – 57.500 до 57.000/58.300 – 58.500 рублей).

**БелаПАН**

### Узнагарода — пуцёўка на семінар

**Выпускніца СШ №6 Алена Куляшэвіч днямі вярнулася з Берліна, дзе на працягу двух тыдняў прымала ўдзел у міжнародным семінары, прысвечаным памяці загінуўшых у гады вайны.**

Паўгода назад адзін польскі часопіс аб'явіў конкурс "Памяць і адзінства", пераможцам якога стала Алена. Яе пісьмовую работу па гісторыі Гродзеншчыны журы прызнала адной з лепшых.

У якасці ўзнагароды дзяўчына атрымала пуцёўку на міжнародны семінар.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**ЗДАРЭННІ**

### Накінуліся на дарожныя знакі

**Звыш 20-ці дарожных знакаў было зламана і раскідана на шашы Слонім — Зэльва за вёскай Чамяры.**

Не вытрымалі нават бетонныя 3-метровыя слупы, на якіх мацаваліся знакі.

Па меркаванню майстра дарожнага ўчастка №7, які абслугоўвае гэту трасу, Аляксея Акопава, на дарозе, мусіць, павесяліліся былыя дэсантнікі, якія адзначалі сваё свята ў мінулую нядзелю, 2 жніўня.

### Патануў побач з месцам працы

**У аўторак раніцай на дне возера, што на вуліцы Баграціёна, слонімскія вадалазы выявілі цела 41-гадовага памочніка майстра фабрыкі "Тэкстыльшчыка" Івана Януля.**

Відавочцы сцвярджаюць, што мужчына ўтапіўся вечарам у панядзелак.

### Магіла каля бальніцы

**Днямі на тэрыторыі неўралагічнага аддзялення райбальніцы, што на Першамайскай вуліцы, на глыбіні двух метраў былі выяўлены астанкі сямі невядомых і мноства вінтовачных патронаў.**

Аб часе і прычынах гібелі людзей можна толькі меркаваць, але цікава тое, што на тым месцы планавалася пабудаваць прыбіральню. Вось так!

### Тры пажары — прычыны розныя

**У нядзелю, апоўдні, здарыўся пажар у шматкватэрным доме, што на Брэсцкай вуліцы. Пажарным хутка ўдалося ўтаймаваць агонь, які ўзнік ад сапсаванага халадзільніка.**

А ў Ашнаравічах ад удару маланкі загарэлася хата і хлеў жыхара вёскі Уладзіміра Ігнацыка.

І хоць пажарным удалося хутка прыбыць на месца здарэння, але агонь зрабіў сваю справу: ад будынку засталіся толькі абгарэлыя сцены.

Маленькі ўнучак, які прыехаў на адпачынак у Хадзявічы, падчас гульні з запалкамі падпаліў хлеў сваёй бабулі Марыі Іскрык.

Было ціхае надвор'е і, на шчасце, агонь не перакінуўся на суседнія пабудовы. Але хлеў згарэў да тла.

### З мапеда — у траўматалогію

**У мінулую суботу грузавік збіў на Шасэйнай вуліцы мапедыста Я.**

Чалавек з цяжкімі калецтвамі быў дастаўлены ў раённую бальніцу.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# КОЛЬКІ МОЖНА?

Уважаемый/ая: Рубец Алексей ...ович

Дирекция Жировичской зональной государственной сортоиспытательной станции убедительно просит Вас провести прорывку свеклы на выделенном Вам участке до 13 июля 1998 года.

Если вы не прорвете свеклу, то прошу до 13 июля 1998 года оплатить в контору станции за посадку Вашего приусадебного участка 50 тысяч рублей за 1 сотку.

Вам также не будут выделены сенокос и солома.

Дирекция

У Жыровічах жыве сям'я пенсіянераў. У далёкім ужо 1955 годзе пажаніліся Аляксей Дзянісавіч (1932 г.н.) і Алена Сяменаўна (1935 г.н.) Рубцы. Працавалі ў Жыровіцкім саўгасе-тэхнікуме. Ён трактарыстам і шафёрам, яна – у паляводстве. Нялёгкая праца на зямлі наклала свой адбітак на іх здароўе. Алена Сямёнаўна, інвалід першай групы, ужо два гады не ўстае з ложка, хварэе і Аляксей Дзянісавіч. За плячыма ў іх засталіся гады сумленнага жыцця, дзе турботы і клопаты перамяжоўваліся з радасцю нараджэння двух сыноў. І зараз дзеці не забываюць сваіх бацькоў. Дапамагаюць Аляксею Дзянісавічу па хатняй гаспадарцы, даглядаюць хворую маці. Яны не з'ехалі ў далёкі свет – са сваімі сем'ямі жывуць у Слоніме. "Добрая сям'я, слаўны род", – кажуць пра такіх людзей у народзе.

Словы пра заслужаны адпачынак, які гарантаваны Канстытуцыяй нашай дзяржавы ў адносінах да сялян – не больш, як словы. І хоць селянін, той самы калгаснік ці рабочы саўгаса, можа як ніхто іншы, за свае ненармаваныя часам дзесяцігоддзі працы на зямлі, мае патрэбу ў адпачынку і заслугоўвае яго, але выхад на пенсію такой магчымасці не дае. Пакуль вясковец не страціў апошняе здароўе, ён будзе працаваць на сваім прысядзібным надзеле, трымаць хатнюю гаспадарку. Акрамя таго, да працы на калгасных палетках ў гарачую пару начальства прыцягвае сваіх пенсіянераў усялякімі праўдамі і няпраўдамі. Ды калі чалавек можа, калі дазваляюць сілы і здароўе атрымаць нейкі даробак да сціплай пенсіі, тады – калі ласка! Але ў тым і праблема, што калгаснае начальства не заўсёды пытаецца ў чалавека: ці можа ён апалоць тую дзялку буракоў? Пры гэтым стан яго здароўя пад увагу зусім не бярэцца, таксама як і ўзрост.

З канторы звычайна шлюць людзям паперкі-ультыматумы, дзе паведамляюць, што калі чалавек не выйдзе на калгасную дзялку "вам не будут выделены сенокос и солома". У выпадку з Рубцом А.Дз. дырэкцыя Жыровіцкай дзяржаўнай гатунказавабыпрабавальнай станцыі пайшла яшчэ далей – запатрабавала заплаціць грошы за апрацоўку прысядзібнага ўчастка (50 тыс. руб. за сотку), які, аказваецца, станцыя не апрацоўвала. Пасадзіў бульбу на сотках сын Аляксея Дзянісавіча.

Дзялкі буракоў у Жыровічах чакалі сёлета пенсіянераў-інвалідаў Жывулька Марыю, Наліўка Вольгу, 75-гадовага пенсіянера-удаўца Снітко І.А. і іншых. Логіка чыноўнікаў ад зямлі зразумелая, яна аднолькавая па ўсёй Беларусі: не можаш сам працаваць– няхай полюць буракі твае дзеці. Атрымліваецца такое своеасаблівае калгаснае прыгоннае права ў спадчыну. Ды дзеці жывуць дзесьці сваім жыццём. А адзінокія старыя людзі ўсё часцей развітваюцца са сваімі кароўкамі, збываюць гаспадарку. Калі ў хляве не пытае есці карова, тады і ў калгаснай канторы адпадае магчымасць шантажыраваць пенсіянера буракамі.

Павага да чалавека працы, да старасці, да сталага чалавечага веку – гэта духоўны дэфіцыт нашага часу. Але ж колькі можна падымаць планку працаздольнасці? Ці ёсць такі старшыня калгаса-саўгаса, які б свайго нямоглага бацьку пасла́ў на калгаснае поле?

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## НАШЫ ГОСЦІ

# Віталь Луба

**Нядаўна ў "Газеце Слонімскай" і ў Слоніме гасцяваў рэдактар тыднёвіка беларусаў у Польшчы "Ніва" Віталь Луба.**

Гэты тыднёвік выдаецца ў Беластоку на беларускай мове з 1956 года. Акрамя газеты, рада тыднёвіка займаецца яшчэ і выдавецкай справай: друкуе беларускамоўныя кнігі па гісторыі, літаратуры і культуры Беларусі.

Рэдактар "Нівы" Віталь Луба пазнаёміўся з калектывам газеты, пабываў ў Жыровічах, у краязнаўчым музеі, паглядзеў наш горад. На памяць ён пакінуў нам свой аўтограф.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Чытачам і рэдакцыі "Газеты Слонімскай" выказваю самыя найлепшыя пажаданні.

Віталь Луба
– рэдактар "Нівы"

Слонім, 29.07.1998 г.

## НАВІНЫ

# Суседняе Дзятлава з "Нашай праўдай"

**У Дзятлаве з'явілася яшчэ адно выданне — незалежны бюлетэнь "Наша праўда".**

Бюлетэнь пачаў выходзіць пры падтрымцы мясцовай суполкі БНФ, а выдаўцом яго з'яўляецца былы настаўнік з вёскі Раготна Мікалай Грышан. Як стала вядома карэспандэнту "ГС", першыя нумары прыйшліся не да спадобы дзятлаўскай адміністрацыі і міліцыі. Відаць, гэта з-за таго, што "Наша праўда" выступае з рэзкай крытыкай мясцовых "вертыкальшчыкаў". А крытыкаваць у Дзятлаве ёсць каго і ёсць за што.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# Налог для крестьян уменьшили

**Президент Александр Лукашенко подписал декрет «Об особенностях взымания в 1998 году подоходного налога с сумм доходов, которые получают члены колхозов, кооперативов, крестьянских фермерских хозяйств, работники совхозов и других сельскохозяйственных предприятий».**

Следует отметить, что, согласно закону о подоходном налоге, подоходный налог со своего заработка впервые, начиная с этого года, должны уплачивать все работники села, не исключая и колхозников. Такое нововведение вызвало негативную реакцию со стороны данной категории граждан, которые стали обращаться в адрес правительства и президента с нареканиями по поводу того, что их заработок ущемляется. Нынешний президентский декрет дает льготы колхозникам, рабочим совхозов и фермерам. Согласно этого документа, ставка подоходного налога для этой категории граждан по сравнению с работниками всех других отраслей уменьшена в целом на 40%. По мнению разработчиков декрета, принятие декрета положительно скажется на эффективности труда во время уборочной кампании и повысит эффективность производства на селе.

**БелаПАН**

## ВЁСКА

*Нашы праблемы*

# ЛАЗНІ ЁСЦЬ, А ПАМЫЦЦА НЯМА ДЗЕ

Многія сельскія лазні сёння нагадваюць забытыя, запушчаныя і пакінутыя помнікі. Напрыклад, так выглядае лазня ў вёсцы Хадзявічы (на здымку). Такіх, якія не працуюць, на Слонімшчыне шмат. Паўстае пытанне: дзе тады памыцца чалавеку? Цяпер стаіць лета, ідзе ўборка ўраджаю. Вось чаму вяскоўцам нічога не застаецца, як мыцца ў балеях. Але і тую балею не кожны купіць, бо каштуе яна больш чым паўмільёна рублёў. Гэта летам, а хто паклапоціцца пра вяскоўцаў зімою? Відаць, ніхто. Бо на паўтары сотні вёсак нашага раёна дзейнічае ўсяго 53 лазні.

Таму вяскоўцы мыюцца дзе прыйдзецца. Хто ў балеі, хто ля студні ў вядры, хто ў тазіку, а хто на выхадны спяшыць у Слонім да дзяцей, каб памыцца ў ваннай. Мусіць таму на вёсцы, з-за недахопу лазняў, павялічваецца колькасць скурных і інфекцыйных захворванняў.

На вялікіх сходах і з вялікіх трыбун часта гучаць гарачыя прамовы пра тое, што трэба шанаваць працу вяскоўцаў, паляпшаць іх быт. Гавораць яны вельмі добра, але памыцца вяскоўцам няма дзе...

**Міхась АКУЛКА**

## НАВІНЫ

# Работаем с убытками

**По данным Министерства статистики и анализа на начало июня в республике насчитывалось 2601 убыточное предприятие, или 24% от общего количества предприятий, состоящих на самостоятельном балансе.**

Сумма убытков по ним достигла 3121,5 миллиарда рублей. В промышленности среди убыточных предприятий 56,6% составили государственные предприятия, 43,4% – негосударственной формы собственности. В строительстве эти пропорции составили 56,7% и 43,3% соответственно.

Удельный вес убыточных предприятий по областям выглядит таким образом: Минская область – 30%, Могилевская – 26,5%, Витебская – 25,4%, Гомель-ская – 24,4%, Брестская – 22,1%, Гродненская – 21,4% и Минск – 17,7%.

**БелаПАН**

## ЗДАРЭННІ

# Вось гэта навальніца!

**Такой навальніцы з моцным грукатам грому і маланкай на Слонімшчыне ўжо даўно не было. Прайшла яна ноччу з 3 на 4 жніўня.**

Навальніца спаліла хлеў у вёсцы Вострава, а таксама – хлеў з каровай і цялём у вёсцы Мікалаеўшчына.

**Міхась АКУЛКА**

## СПОРТ

# Шашачны турнір прайшоў у Новых Дзявяткавічах

**У вёсцы Ноўя Дзявяткавічы адбыўся традыцыйны шашачны турнір "Грыўда-98", прысвечаны памяці вядомага прапагандыста шашак Мікалая Якуты. У спаборніцтвах прынялі ўдзел 18 шашыстаў з усёй Беларусі, 13 з іх з'яўляюцца майстрамі спорту.**

Барацьба была вельмі напружаная, у выніку аднолькавую колькасць ачкоў набралі Юрый Файнберг і Вячаслаў Палянскі (Мінск), Дзмітрый Масайла (Віцебск), Віталь Аніська (Слонім) і Вітольд Цыдзік (Гродна).

Спецыяльны прыз за лепшы вынік сярод слонімскіх шашыстаў ад раённага вузла электрасувязі атрымаў Віталь Аніська.

Член выканкама федэрацыі шашак Беларусі Юрый Файнберг уручыў Івану Мялешку грамату за вялікія заслугі ў развіцці шашак.

Аляксандру Аніську ўручылі пасведчанне суддзі нацыянальнай катэгорыі па шашках.

Фундатарамі шашачнага турніру былі фірмы "Нёман" і "Тэлкон".

**Яўген ІВАНОЎ**

## АНТАЛОГІЯ ІНТЫМНАГА ВЕРША

**Мікола КАНАНОВІЧ**

***

*Ж.*

Вочы твае, вочы!
Мяне не сурочаць.
З пяшчотаю і каханнем
Просяць зноў аб спатканні.
А за вокнамі — ранак сіні,
Мяне клічуць мае пуцявіны,
Цябе — твае клопаты, справы.
Мы жыццём апантаны.
А ў сэрцах каханне плача
Аб тым, што нельга іначай,
Аб тым, што нашы дарогі
Скрыжоўваюцца, як ногі,
Скрыжоўваюцца, як рукі,
Як сэрцаў, удары-стукі
У імгненні нашага шчасця,
Якое растанне плача.
Крыж дарог чатырохбаковы,
Як жа ён па-старому новы
Беспрытульнасцю нашых душаў!
Без цябе — караблём па сушы
Я плыву ў гавань нашай ночы,
Маякамі — твае мне вочы.

## РЭКЛАМА



Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39.
E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 5 жніўня 1998 г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 6.700 экз.
Заказ №2186
© «Газета Слонімская». Спасылка на «ГС» абавязковая.
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы



ПРАШУ СЛОВА

## "У пошуках кампрамату" — менавіта так назвала свой артыкул ("Газета Слонімская"№31 ад 30.07-05.08.98) Ірына Шпыркова, дырэктар слонімскага краязнаўчага музея

Адразу хачу паведаміць, што я не шукаў спецыяльна "чорных плямаў" у гісторыі партызанскага руху. Наадварот, усе мае ранейшыя публікацыі былі прысвечаны гераізму і самаадданасці народных мсціўцаў. Аднак, як кажуць "з песні слова не выкінеш". Запісваючы ўспаміны ветэранаў, я чуў ад іх не толькі пра гераізм, але і пра цёмныя старонкі партызанскага жыцця. Некалі мне давялося цэлы тыдзень працаваць у слонімскім музеі, вывучаць для дыпломнай працы ўспаміны партызан нашага краю. Не выключаю, што споведзі гэтых людзей сабралі па камандзе райкама партыі, бо ўсе яны былі вельмі падобныя. Ну, проста такая лясная ідылія: грамілі варожыя гарнізоны і пускалі пад ухіл цягнікі. І ні слова пра бандытызм і марадзёрства, п'янства і распусту, антысемітызм і жорсткасць, самадурства некаторых начальнікаў.

Хопіць! Не трэба крывадушнічаць, Ірына Рыгораўна! Нават у партыйных ды іншых архівах, дзе вам па абавязку службы даводзілася бываць, таксама ёсць матэрыялы пра непрыгожыя ўчынкі многіх камандзіраў.

Аднак, лепшы архіў — гэта народная памяць. Пакіньце, Ірына Рыгораўна, на некаторы час цёплае і ўтульнае месца ў кабінеце музея ды з'ездзіце ў вёску. Зайдзіце ў хату да былога партызана і, калі вы здолееце выклікаць давер, ён вам раскажа праўду пра партызанку. А праўда гэта жорсткая і страшная, дзе гераізм і подласць ішлі побач, дзе зверствы і катаванні былі нормай, дзе на фоне нямецкай акупацыі добра відаць элементы грамадзянскай вайны... У любой вёсцы вам скажуць, хто такія партызаны і хто такія бандыты. І нікуды ад гэтага нельга падзецца!

"Колькі не шукала, нічога гістарычнага ў артыкуле нашага слонімскага гісторыка не знайшла", — піша спадарыня Шпыркова.

Мяркую, што праўдзіва расказваць пра тое, што і як было, не ўпрыгожваючы падзеі, і ёсць гісторыя.

"Гэта звычайныя агідныя плёткі", — далей адзначае дырэктар музея.

Паважаная Ірына Рыгораўна, калі мне розныя людзі аб адных і тых жа падзеях расказваюць аднолькава, то я ім больш веру, чым вашым "успамінам", якія былі напісаны ў брэжнеўскія часы і адрэдагаваны райкамаўскім ідэёлагам.

"Не ведаю, які такі "странный" план распрацаваў Бабкоў пад час аперацыі ў вёсцы Сасноўка...", — здзіўляецца Ірына Рыгораўна.

Выбачайце, але слова "странный" уставіў я. Падчас размовы ветэран сказаў прасцей: "Бабкоў зрабіў х...ы план". А сэнс ягонага адказу быў у тым, што з-за гэтай трагікамічнай артпадрыхтоўкі варожыя салдаты змаглі спакойна і своечасова заняць месцы ў дзотах і падрыхтавацца да бою. Тым самым быў згублены элемент раптоўнасці, што і прывяло да вялікіх страт.

Бабкоў быў супярэчлівым чалавекам. Смеласць і воля ў яго спалучаліся з самадурствам, авантурызмам, жорсткасцю.

"Як ён (Бабкоў) мог выканаць пастаўленую задачу з гэткімі баязліўцамі?" — лічыць сп. Шпыркова.

І тут, і ў іншых частках свайго артыкула наш строгі рэцэнзент нагадвае пра баязлівасць і непрыстойнасць тых партызан, якія далі інтэрв'ю. Дазвольце з вамі не пагадзіцца, калега, усе гэтыя людзі — баявыя хлопцы. Напрыклад, Іван Б. быў у лапах гестапа, адкуль выйшаў ледзь жывым, потым была партызанка, потым фронт, ордэн Чырвонай зоркі і ордэн Айчынай вайны другой ступені. Гэтыя ўзнагароды ён атрымаў на фронце. У партызанах узнагародамі не песцілі!

На вачах у Колі Ф. карнікі забілі родных. А пасля партызанкі ён таксама трапіў на фронт, дзе таксама атрымаў ордэн Чырвонай зоркі.

"Не ведаю, чым вызначаліся былыя партызаны, што абліваюць брудам свайго камандзіра? Мне здаецца, што яны проста злуюць, што не пілі і не елі "катлеты і кураціну" разам з Бабковым і з другімі камандзірамі, і не цешыліся з жанчынамі...", — піша Ірына Рыгораўна.

Вось дзе сабака закапаны! Нарэшце, дабраліся да ісціны! Аказваецца, калі б партызанам дазвалялі гвалтаваць, як гэта рабіў Бабкоў, калі б іх частавалі самагонам і курачкамі — аніякіх скаргаў на начальства не было б! Вельмі ўжо прымітыўна!

"...я не ведаю такога закона, які забараняў бы мужчынам, у тым ліку і камандзірам, любіць жанчын... Чаму Бабкоў мусіў быць еўнухам?" — адзначае сп. Шпыркова.

Не трэба падтасоўваць карты, Ірына Рыгораўна. Гвалт і каханне — розныя рэчы. Бабкоў паводзіў сябе, як султан у гарэме. У мяне ёсць факты, калі некаторыя жанчыны ў партызанскім асяроддзі заплацілі жыццём, адмовіўшыся пераспаць з якім-небудзь камандзірам.

"Не зусім ясна таксама, як гэта былы партызан Фёдар С. (лекар) без інструментаў і люстэркаў, як ён кажа, выявіў усё ж "девственницу", якую Бабкоў павёў у лес? І чаму Фёдар С. вырашыў, што яна была ахвярай?".

Мне не зусім зразумела пазіцыя майго апанента. Можа камусьці з жанчын і падабаецца быць згвалтаванай, але гэта ўжо сексуальная паталогія, адхіленне ад нормы. Калі Бабкоў "палажыў" на каго-небудзь вока, то ён не разбіраўся: ці гэта нечыя сяброўка альбо нявеста, ці, нават, жонка. А што датычыць Фёдара С., то адзначу, што пра гэтага чалавека з трагічным лёсам можна напісаць кнігу. Перад вайной ён быў ваенным фельчарам, потым — плен, фашысцкія лагеры, уцёкі, партызанка, перад самым вызваленнем цяжкае раненне, інваліднасць на ўсё жыццё.

Напрыканцы хачу дадаць, што артыкул "Правду должны знать все" — гэта толькі верхавіна вялізнага і страшнага айсберга. Калі рэдакцыя "Газеты Слонімскай" палічыць патрэбным, я магу прадставіць новыя дакументы і факты, якія паказваюць гісторыю партызанскага руху ва ўсёй яго шматграннасці і складанасці.

**Ігар ПАДГАРАДЗЕЦКІ**

ФОТОРЭПАРТАЖ

*Валянціна ЧУРЫЛЫ і Мікалая СУПРУНА*

# ПРЫСЯГА

**У Слонімскай вайсковай брыгадзе прынялі прысягу больш як трыста маладых байцоў. Урачыстасць ператварылася ў сапраўднае свята, на якім прысутнічалі бацькі салдат.**

**Пад гукі духавога аркестра адбылося пастраенне, потым ва ўсіх падраздзяленнях маладыя воіны пачалі даваць клятву на вернасць Радзіме. Ад імя бацькоў маладых салдат павіншавала Святлана Раманенка. Яна сказала:**

**— Нам, бацькам, вельмі прыемна глядзець на сваіх дзяцей. Яны ўсе такія маладыя, прыгожыя. Хочацца, каб за паўтара гады яны сталі сапраўднымі абаронцамі Айчыны. А самае галоўнае — каб усе яны вярнуліся дамоў здаровымі і мужнымі.**



**Затым слова ўзяў радавы 3-га танкавага батальёна Аляксей Герасіменка:**

**— У жыцці кожнага чалавека ёсць надзеі, якія запамінаюцца на ўсё жыццё. Сёння для нас такой падзеяй з'яўляецца прыняцце ваеннай прысягі. За кароткі час на зборах маладога байца мы атрымалі пачатковыя навыкі армейскай службы, неабходныя для выканання далейшага вайсковага абавязку.**

**Свята закончылася ўрачыстым маршам, якім прайшлі часці брыгады. Пасля маладыя салдаты атрымалі першае звальненне ў горад.**





ПОШТА

## ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ

Шмат пішуць аб цяжкай працы настаўнікаў. Але, на жаль, мала сустракаецца матэрыялаў аб працы работнікаў садкоў. А менавіта там пачынае фарміравацца характар будучага грамадзяніна, прывіваюцца пачуццё калектывізму, любоў да працы. Хочацца некалькі цёплых слоў сказаць пра калектыў дзіцячага садка №4.

Знаходзіцца ён у ціхім маляўнічым месцы Слоніма.

Узначальвае калектыў садка Валянціна Іванаўна Комар. Гэта вельмі добразычлівая і прыветлівая жанчына. Цяжка было б адной Валянціне Іванаўне без сваіх памочнікаў. А гэта і выхавацелі, і намеснікі выхавацеляў, і тэхнічкі, і кухары, і вартаўнікі.

У садку заўсёды чыста, утульна, для дзетак гатуецца смачная ежа, усе работнікі заўсёды добразычлівыя.

Восем год звязваюць нашу сям'ю з гэтым садаком. Хочацца сказаць вялікі дзякуй вам, Валянціна Іванаўна, Ганна Антонаўна, Ала Генадзьеўна, Вольга Віктараўна, Галіна Аляксееўна, Валянціна Мікалаеўна, а таксама ўсім іншым работнікам садка, за вашы добрыя сэрцы, за ваш прафесіяналізм, за ўсё добрае, што вы, не шкадуючы сябе, аддаяце дзецям.

Няхай у вашых сем'ях заўжды пануе ўзаемаразуменне, каханне. Няхай з вамі заўсёды будзе ўдача.

**УТЛІКІ Іван Пятровіч і Людміла Фёдараўна**



**Малюе Яўген ІВАНОЎ**



















НАША ІНТЭРВ'Ю

# НЕЗВЫЧАЙНАЯ ЛІЧБА "1"

***Сёння раённы вузел электроннай сувязі абслугоўвае каля 15 тысяч абанентаў. Часам некаторыя з іх не згодны з сумамі аплаты за карыстанне тэлефонам.***

Па меркаванню галоўнага інжынера раённага вузла электроннай сувязі Міхаіла Лажко, адна з галоўных прычын гэтаму тое, што часта слонімцы маюць тэлефоны з аўтаадказчыкамі, з вызначальнікамі нумароў. І хоць, напрыклад, нехта пазваніў на такі аппарат і не дачакаўся адказу, час сувязі з гэтым нумарам залічваецца ў аплату. А кожная няпоўная хвіліна размовы, нават некалькі секунд, аплочваецца, як поўная. Аднак трэба ведаць, што калі не адказвае звычайны тэлефон — аплата не залічваецца.

**— Няўжо не было выпадкаў, калі няправільна была налічана аплата за размовы па прычыне няспраўнай апаратуры?**

— Апаратура падводзіць вельмі рэдка. Часцей памыляюцца тыя, хто няўважліва набірае нумар. Пры выхадзе на міжгорад неабходна дачакацца суцэльнага гудка пасля "васьмёркі". Асабліва трэба быць уважлівым пры наборы "адзінкі". Гэта незвычайная ў сувязі лічба. Яна можа ўзнікнуць пры ненаўмысным кароткачасовым націску на рычаг апарата, альбо найменшым павароце дыска, на што можна не звярнуць увагі. Бывае і так, што вы тэлефануеце ў іншы горад, а аппарат, ці лінія там няспраўныя. І калі не ўдаецца дазваніцца з 2-3 разоў, не трацьце дарэмна часу і грошай — звярніцеся на тэлефонную станцыю. Патрэбна неадкладна звяртацца таксама на вузел сувязі, калі ваш тэлефон перыядычна падзвоньвае сам па сабе, а пры зняцці трубкі чутна чыясьці размова, альбо размова спаранага абанента. Магчыма, што да вашага тэлефона хтосьці падключыўся.

**— А што, няўжо былі выпадкі самавольнага падключэння да чужых тэлефонных ліній?**

— Выпадкі падключэння да кватэрных тэлефонных не зарэгістраваны, а вось да ліній устаноў і прадпрыемстваў — былі. Парушальнікі-піраты атрымалі вялікія штрафы. Такія выпадкі, як правіла, хутка высвятляюцца падчас праверкі ліній сувязі. Часам здараецца, што падлеткі тэлефануюць у замежжа, а бацькі пра гэта не ведаюць. У выніку, ім даводзіцца плаціць вялікія сумы.

**— Міхаіл Пятровіч, а ці ёсць у нашым горадзе радыётэлефоны? І колькі іх ёсць?**

— Так, але з радыётэлефонамі шмат непаразуменняў. Нам вядома, што ў Слоніме маюць іх многія, але ўсе яны, акрамя радыётэлефонаў прыватных таксістаў, не зарэгістраваныя. Калі такі тэлефон не мае сэртыфіката і не зарэгістраваны адпаведным чынам, то ён працуе, як правіла, на забароненай частаце, да якой можа падключыцца яшчэ хто-небудзь. Плаціць жа за ўсе размовы давядзецца асноўнаму абаненту. А галоўная бяда заключаецца ў тым, што такія радыётэлефоны перашкаджаюць нармальнай рабоце вайсковай і міліцэйскай радыёсувязі.

**— І што рабіць, калі асобныя абаненты прынцыпова не згодны з атрыманым рахункам за тэлефонныя размовы?**

— Калі чалавек звернецца з заявай, на тэлефоннай станцыі яму на экране кампутара пакажуць, колькі часу на працягу любога дня ці ночы ён размаўляў па тэлефоне і з кім. Калі і гэтага будзе не дастаткова, манцёры выедуць на месца, каб праверыць тэлефонную лінію на прадмет яе тэхнічнага стану.

**Гутарыў Валянцін ЧУРЫЛА**



ФУТБОЛ *высшая лига*

# НАДЕЖДА УМИРАЕТ ПОСЛЕДНЕЙ

ТУРНИРНАЯ ТАБЛИЦА

**ПОСЛЕ 16-го ТУРА**

| | | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Днепр-Трансмаш (Могилев) | 16 | 13 | 1 | 2 | 33-7 | 40 |
| 2. | Гомель | 16 | 8 | 6 | 2 | 21-12 | 30 |
| 3. | БАТЭ (Борисов) | 16 | 9 | 2 | 5 | 31-19 | 29 |
| 4. | Торпедо (Минск) | 16 | 8 | 5 | 3 | 31-13 | 29 |
| 5. | Белшина (Бобруйск) | 16 | 8 | 4 | 4 | 28-13 | 28 |
| 6. | Славия (Мозырь) | 16 | 7 | 6 | 3 | 23-18 | 27 |
| 7. | Локомотив-96 (Витебск) | 16 | 7 | 4 | 5 | 17-13 | 25 |
| 8. | Торпедо-Кадино (Могилев) | 16 | 7 | 4 | 5 | 20-17 | 25 |
| 9. | Динамо (Минск) | 15 | 7 | 3 | 5 | 23-16 | 24 |
| 10. | Неман (Гродно) | 15 | 5 | 5 | 5 | 13-19 | 20 |
| 11. | Динамо (Брест) | 16 | 6 | 1 | 9 | 21-26 | 19 |
| 12. | Шахтер (Солигорск) | 16 | 4 | 4 | 8 | 15-31 | 16 |
| 13. | Нафтан-Девон (Новополоцк) | 16 | 3 | 2 | 11 | 13-31 | 11 |
| 14. | Молодечно | 16 | 1 | 1 | 14 | 13-39 | 4 |
| 15. | Коммунальник (Слоним) | 16 | 0 | 4 | 14 | 5-36 | 4 |

СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98

## РЕЗУЛЬТАТЫ ОСТАЛЬНЫХ МАТЧЕЙ ТУРА:

| | |
|---|---|
| Торпедо — Динамо Мн. | — 3:4 |
| Шахтер — Днепр-Трансмаш | — 1:3 |
| Торпедо-Кадино — Нафтан-Девон | — 0:1 |
| Гомель — Славия | — 0:0 |
| Динамо Бр. — Молодечно | — 6:3 |
| Локомотив-96 — Белшина | — 1:0 |



**БАТЭ (Борисов) — Коммунальник (Слоним) — 1:0**

**Борисов. 1 августа. Городской стадион. 4000 зрителей. Судья — В.Семенов (нк).**

**Коммунальник: Киркиж, Капельян, Ал.Адамицкий, А.Дегиль, Воронин, Козловский, Диваков, Савицкий (Таташвили, 61), Баль (к) (Булойчик, 84), Савонь (Панковец, 46), Малый.**

**Голы: Лошанков.**

**Предупреждения: Савицкий, Кутузой**

**Конкурс "ГС" и ООО "Телкон": лучший игрок — Ал.Адамицкий, бомбардир — Савонь (2), лучший новичок — Панковец.**

В очередной раз "Коммунальник" потерпел поражение. На этот раз со счетом 0:1 наши футболисты уступили борисовскому БАТЭ, хотя, как отмечают очевидцы матча, слонимчане играли неплохо. А во втором периоде даже могли сравнять счет. Упустил свой шанс Малый, который не реализовал прекрасную возможность забить гол. Находясь на отличной позиции, он ударил по воротам почти с 11-метровой отметки, но — мимо.

Остается только надеяться, что в субботу, 8 августа, когда состоится встреча с брестским "Динамо", "Коммунальнику" повезет больше.

**Б.П.**

